


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (1145) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 5 ЛЮТАГА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

# ГАСПАДАРЫ ЎЛАСНАГА ЛЁСУ

5 лютага — выбары. З нашай волі мандат улады атрымаюць найлепшыя, найбольш заслужаныя кандыдаты ў радных гмінных, гарадскіх і пасялковых радаў нарадовых. Гэта першыя выбары пасля адміністрацыйнай рэформы. Выбіраем прадстаўнікоў народнай улады пярвічнага ўзроўню, таго ўзроўню, на якім вырашаецца найбольшая колькасць нашых штодзённых жыццёвых спраў. Варта пры гэтай нагодзе ведаць, што аж 90 працэнтаў правамоцтваў з даўнейшых паветаў перайшло пасля рэформы на гмінныя, гарадскія і пасялковыя ўпраўленні.



*Яшчэ ў 1978 годзе ў гэтых завадскіх карпусах распачнуць мантаж частак для каляровых тэлевізараў польскай прадукцыі.*



*„Кожнай сям'і — уласную кватэру!" Гэты лозунг паспяхова ажыццяўляецца таксама і ў Беластоку.*

Таму гэтыя выбары такія важныя, таму — як ніколі дагэтуль — з найвышэйшай павагай адносяцца да іх правадыры нашага народу.

11 студзеня гэтага года Агульнапольскі камітэт Фронту адзінства народу аднагалосна прыняў выбарчую дэкларацыю **„За далейшае паслядоўнае ажыццяўленне праграмы вышэйшай якасці жыцця і працы народу, за далейшае замацаванне сацыялістычнай дэмакратыі"**. Выяўляе яна супольную волю ўсіх палітычных і грамадскіх груповак нашай краіны, сталася аб'яднанай воляй цэлага народа. Яе асновай з'яўляюцца **пастановы другой краёвай канферэнцыі Польскай аб'яднанай рабочай партыі.** Такім чынам, аддаючы свой голас за кандыдатаў Фронту адзінства народу, мы адначасова выяўляем сваю падтрымку праграме партыі, праграме ўсебаковага развіцця нашай краіны.

Гэтыя, вядома, надта ж агульныя і напэўна крыху святочныя словы, знаходзяць поўнае адлюстраванне ў штодзённай нашай рэчаіснасці. Хопіць

(Працяг на стар. 4)

П яты раз аб'яўляем сёння вынікі нашага конкурсу „Карэспандэнт года". Значыць, юбілей! Невялікі, а ўсё ж юбілей. Колькі тысяч матэрыялаў нашых карэспандэнтаў было апублікаваных на старонках „Нівы" за гэты час! Багаты-прабагаты плён!

З выпадку юбілею хочам прыпомніць усіх першых, другіх і трэціх за мінулыя гады.

1973 год — Мікалай Панфілюк, Уладзімір Хомік, Ольга Пракапюк.

1974 год — Уладзімір Хомік, Эдмунд Вайсковіч, Мікалай Панфілюк.

1975 год — Эдмунд Вайсковіч, Уладзімір Сідарук, Мікалай Панфілюк.

1976 год — Мікалай Няплоха, Мікалай Панфілюк, Уладзімір Хомік.

**ЗА ГОД 1977**

**ПЕРШЫ КАРЭСПАНДЭНТ ГОДА**

**Аляксандр Закройшчык.**

А вось спісак авангарду нашых карэспандэнтаў (авангардам мы, як помніце, называем тых карэспандэнтаў, якія за год апублікавалі ў „Ніве" не менш, як пяць публікацый).

1. Аляксандр Закройшчык, Нараўка 61 публ.
2. Уладзімір Сідарук, Чаромха 59 „
3. Мікалай Няплоха, Бельск 49 „
4. Пётр Байко, Белавежа 48 „
5. Уладзімір Хомік, Слоя 48 „
6. Мікалай Панфілюк, Дубічы Царкоўныя 42 „
7. Ян Гарстка, Супрасль 39 „
8. Эдмунд Вайсковіч, Гайнаўка 25 „
9. Мікалай Лук'янюк, Белкі 25 „
10. Яўгенія Аўсенюк, Зубава 21 „
11. Іван Кірызюк, Бельск 19 „
12. Валянцін Анапюк, Галады 17 „
13. Васіль Асеннік, Спічкі 17 „
14. Васіль Петручук, Беласток 16 „
15. Крыстына Саўко, Міхалова 12 „
16. Эдвард Шчасновіч, Шчасновічы 11 „

## Карэспандэнт года

17. Ян Міхалюк, Чыжы 11 „
18. Міхась Матвюк, Бельск 9 „
19. Міхал Кірылюк, Кнаразы 9 „
20. Віктар Бура, Гайнаўка 7 „
21. Яўгенія Манаховіч, Бельскі белліцэй 6 „
22. Ян Бандарук, Шудзялава 6 „
23. Ольга Пракапюк, Грэдалі 6 „
24. Адам Цэха, Гайнаўка 5 „

Іншых карэспандэнтаў, якія пісалі ў „Ніву" ў 1977 годзе, было 54 асобы. Разам апублікавалі яны 75 матэрыялаў.

Усіх віншуем сардэчна. Жадаем у новым годзе пісаць з не меншай, а з яшчэ большай энергіяй і вытрымкай.

Яшчэ некалькі слоў пра першых карэспандэнтаў года.

Аляксандр Закройшчык — настаўнік і вядомы грамадскі дзеяч Нараўкаўскай гміны. Вельмі салідны і сістэматычны, з шырокім грамадска-палітычным кругаглядам.

Уладзімір Сідарук — працаўнік дзяржаўнай чыгункі, грамадскі дзеяч Чаромхаўскай гміны. Салідны, дапытлівы і сістэматычны. Яго публіцыстычная дзейнасць развіваецца з кожным годам.

Мікалай Няплоха — настаўнік з Бельска, вялікі папулярызатар настаўніцкай працы і школьнай моладзі.

Плён працы карэспандэнтаў за 1977 год. Разам апублікавалі 642 матэрыялы, запаўняючы кожную „Трыбуну чытачоў" (7 старонку) і вельмі часта іншыя старонкі „Нівы" сваімі публікацыямі.

Наш авангард апублікаваў разам 568 матэрыялаў. Іншыя карэспандэнты напісалі 75 матэрыялаў.

У „Парнасіку" на 7 старонцы апублікавалі мы 43 вершы 20 аўтараў. Большасць гэтых вершаў — гэта вершы публіцыстычнага характару, часта вострa крытычныя. „Парнасік" карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод чытачоў. А найбольш водгукаў у гэтым месцы мае Дзядзька Квас, які самую вострую крытыку ўмее зачараваць у багатую вершаваную форму.

Найбольш крытычных публікацый напісалі: Уладзімір Сідарук і Міхал Лук'янюк — па 12, Пётр Байко — 11, Мікалай Панфілюк і Уладзімір Хомік — па 10, Жэня Аўсенюк і Васіль Асеннік — па 9, Міхал Кірылюк, Мікалай Няплоха, Аляксандр Закройшчык — па 6, Іван Кірызюк і Эдвард Шчасновіч — па 5.

Найбольш крытычных заметак выслалі мы дырэкцыі Ваяводскага прадпрыемства ПКС — было іх 13, у гмінныя ўпраўленні ў Бельску і Орлі — па 8, крыху менш — беластоцкай Дырэкцыі дзяржаўнай чыгункі (РДКП) — 6 і па тры крытычныя карэспандэнцыі накіравалі мы ў гмінныя ўпраўленні ў

(Працяг на стар. 7)

# ЯЕ ДНІ І ГАДЫ

Ш колка ў вёсцы Войшкі, што ў Юхнавецкай гміне, стаіць на аселіцы за крыжамі, і ў пані Валі часта бываюць такія дні, што ёй няма з кім дарослым і словам абмяняцца. А калі закончацца апошнія ўрокі і за школьнымі варoцечкамі разбягуцца ды рассыплюцца па сялу звонкія дзіцячыя галасы, тады ў апусцеўшым і аглохшым будынку чалавечае адзіноцтва становіцца яшчэ цяжэйшае. І так ужо дзесяць, дваццаць... Не, аж трыццаць тры гады з лішнім пані Валя адна.

Было памятнае вогненнае лета 1944 года. Пад націскам Савецкай Арміі адкаціліся на захад полчышчы нямецкіх захопнікаў. Адкаціліся, але яшчэ былі моцныя. Дабіваць гітлераўскае гадаўё рваліся дабравольцамі многія хлопцы з вызваленай Беласточчыны. Разам з імі пайшоў і муж пані Валі — Іван Сідарук. Пісаў да яе ў роднае Курашава часта. Як ва ўсіх лістах з фронту, паведамляў, што ён жывы, здаровы, ваюе, спадзяецца дажыць да перамогі, пытаў пра сына, бацькоў, радню. Такім жа быў і той ліст, што прыйшоў у лютым 1945 года з фронта, недзе з-пад Кенігсберга. Быў такі самы, як папярэднія, і цалкам не такі — бо быў апошнім. Іхняму сыну Юрачку тады якраз пайшоў восьмы месяц. Не суджана яму было зведаць шчасця паскакаць „конікам" на бацькоўскім калене, прытуліцца да такой калючай і такой роднай шчакі і зазірнуць у любыя вочы...

А тым часам жыццё па вёсках паплыло новым буйным струменем. Дарослыя ўзяліся за адбудову знішчаных гаспадарак, а моладзь хлынула ў школы. Калі ўжо пані Валя апамяталася пасля напаткаўшага яе гора, рашыла цалкам прысвяціць сябе сыну і... настаўніцтву. Чаму іменна настаўніцтву? На гэта ёй цяжка адказаць. Мо таму, што гэтая прафесія была самая блізкая яе характару — самаахвярнаму і настойліваму. Мо і па той прычыне, што сярод сваіх колішніх настаўнікаў сустрэла людзей надзвычай салідных, адданых справе выхавання маладога пакалення. А быў сярод іх такі адзін, вобраз якога не зацёрся ў памяці пані Валі і па сённяшні дзень. Гэта было яшчэ пры Савецкай уладзе. Яна тады хадзіла ў пяты клас. Роднай беларускай мове вучыў маладзенькі настаўнік, нядаўны выпускнік педтэхнікума, Архамейка. Прыехаў недзе з Усходняй Беларусі. Закаханы ў свой прадмет, ён імкнуўся аддаць усяго сябе вучням.

У 1946 годзе пані Валя паступіла на падрыхтоўчы курс да настаўніцкай працы ў Бельску, а пасля яго заканчэння — у Педагагічны ліцэй для дарослых у Беластоку. І бацькі мужа, і яе сям'я Чыкераў з Лянева памагалі ёй, як толькі змаглі .Апекаваліся сынам Юркам і матэрыяльна падтрымоўвалі.

У 1950 годзе яна закончыла педліцэй і пайшла на сваю першую працу ў вёсцы Галады каля Бельска, каб... прапрацаваць там аж 16 год. Вядома, прыволля ды раскошы не было: зранку і да вечара ўсё ў цеснаце, духаце, нервах. Даводзілася вучыць усяму — беларускай мове, матэматыцы, фізіцы і іншым прадметам. І ўсё рабіць: вечарамі вучыць непісьменных дарослых, каледаваць ад хаты да хаты і пераконваць сялян, каб здавалі абавязковыя пастаўкі збожжа, бульбы, мяса, малака, збіраць падаткі. Але ўсё ж, калі пайшла чутка, што ў Беластоцкай настаўніцкай студыі адкрываецца завочнае аддзяленне беларускай філалогіі, знайшла яна ў сабе столькі сілы, каб распачаць там вучобу. Вельмі ж блізкая сэрцу была ёй

(Працяг на стар. 5)




# Замежную мову за тры месяцы!

Хто з вывучаючых замежную мову не хацеў бы набыць навыкі гутаркавай мовы ў кароткі тэрмін, скажам, за тры месяцы? Эксперымент, праводзімы Маскоўскай лабараторыяй новых метадаў навучання замежным мовам Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута сувязі, мае на мэце пацвердзіць такую магчымасць. У яго аснове — работа балгарскага псіхатэрапеўта Георгія Лазанава.

Як тлумачыць кандыдат філалагічных навук кіраўнік лабараторыі Галіна Кітайгародская, балгарскі ўрач перанёс на працэс навучання прыёмы псіхатэрапіі. Ён зыходзіць з таго, што патэнцыі чалавечай памяці неабмежаваныя.

У 1975 годзе масквічамі быў распрацаваны свой варыянт сістэмы Лазанава. Мэта, пастаўленая імі перад сабой, трыадзіная: навучыць спецыялістаў (інжынераў, выкладчыкаў і інш.) за кароткі час, па-першае, чытаць лекцыі па сваёй спецыяльнасці на адной з замежных моў, па-другое, чытаць тэхнічную і мастацкую літаратуру, па-трэцяе, свабодна размаўляць на замежнай мове.

...Наплывае паўзмрок. Ціха гучыць музыка... На вялікі, ва ўсю сцяну экран праецыруюцца каляровыя дыяпазітывы: веснавы лес, паляны, лугі... У мяккіх крэслах, паўкругам расстаўленых перад экранам, сядзяць вучні.

Пачынаецца ўрок, які вядзе выкладчыца Марына Маёрава. Гэта не проста ўрок, а старанна прадуманы і выдатна выкананы спектакль...

Заняткі дзеляцца на тры цыклы. Першы — „турыстычны“, як кажуць у лабараторыі, або базавы. Яго мэта — навучыць разумець і падтрымліваць размову на „агульначалавечыя“ тэмы. Цыкл складаецца з 30 заняткаў, па чатыры акадэмічныя гадзіны ў кожных. К канцу першага цыкла вывучэнцы авалодваюць дзвюма тысячамі (!) лексічных адзінак і пачынаюць не проста гаварыць на замежнай мове, а ўжываць у гутарцы шырокае кола гутарковых канструкцый і ідыяматычныя выражэнні.

На другім этапе пачынаецца ўдасканаленне мовы. Перавага аддаецца маналогам у адрозненне ад дыялогаў, якія пераважаюць у першым цыкле. Змяняецца і моўны матэрыял.

Пачынаючы вывучэнне мовы, кожны з навучэнцаў атрымлівае ўмоўнае імя, якое застаецца за ім на ўвесь час заняткаў. Так, у англійскай групе інжынер Пятроў становіцца містэрам Блэкам, у французскай — тэхнік Сакалова — мадам Франсуазай, у нямецкай — начальнік аддзела Сямёнаў — герам Крамерам. На працягу першага цыкла ўсе „заставаліся“ ў Маскве. Навучэнцам не трэба было напружваць увагу і памяць, „дзейнічаючы ў незнаёмай краіне“. Але вось яны са сваімі „гідамі“ — выкладчыкамі „накіроўваюцца“ ў Англію, Францыю, у ФРГ і ГДР. Пастуpова змяняюцца ўяўленні, адбываецца „ўжыванне ў вобраз“. Тэмы гутарак: адукацыя, культура, гісторыя, геаграфія краіны. На другім этапе ў праграму ўводзіцца таксама чытанне адаптаванай літаратуры. У выніку — яшчэ дзве тысячы лексічных адзінак за той жа прамежак часу.

Трэці цыкл называюць тут „падмовай“. Арыентацыя — на вузкую спецыялізацыю навучэнцаў. Лабараторыя знаходзіцца ў інстытуце сувязі — адпаведна і моўны матэрыял адлюстроўвае спецыфіку інстытута. Цяпер студэнты пераходзяць да чытання арыгінальнай літаратуры. Час трэцяга цыкла 80 гадзін.

К канцу навучання ў актыве студэнтаў каля 6.000 лексічных адзінак. Яны гутараць на любую прапанаваную тэму, чытаюць спецыяльную і мастацкую літаратуру.

Над методыкай, накшталт варыянту Галіны Кітайгародскай, працуюць больш чым трыццаць груп і кафедраў. Цяпер створаны міжведамасны савет па праблемах методыкі інтэнсіўнага навучання. На думку спецыялістаў будучае за каардынаваннем такіх эксперыментаў у міжнародным маштабе.

Б. Станілаў



*Вялікая бітва закончана.*

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# СТАЛІНГРАДСКАЯ ПЕРАМОГА

Здараліся ў нашай гісторыі бітвы, якія вырашалі лёс чалавецтва, устанаўлялі новы палітычны і грамадскі лад у Еўропе. Прыгадаем хаця б Грунвальдскую бітву ў 1410 годзе, у выніку якой была спынена тэўтонская агрэсія на нашу краіну. Такімі ж па значэнню былі, напэўна, бітвы пад Барадзіно і Ватэрлоо напалеонаўскай эпохі, а таксама крывапралітныя баі пад Вердэнам у час першай сусветнай вайны.

Найслаўнейшай аднак у гісторыі войнаў лічыцца бітва між Донам і Волгай, бітва за Сталінград. Гэтая бітва распачалася летам, у ліпені 1942 года і працягвалася да лютага наступнага года.

Ад 22 чэрвеня 1941 года землі Беларусі, Украіны і Расіі таптала амаль 6 мільёнаў гітлераўскіх салдат, бамбіла іх 5 тысяч самалётаў, 3 712 танкаў. У падтрымку гітлераўскага рэйха працавала насельніцтва і эканоміка заваяванай Еўропы. Пад фашысцкай акупацыяй знаходзіліся тады: Чэхаславакія, Польшча, Данія, Бельгія, Галандыя, Нарвегія, Францыя, Грэцыя і Югаславія. Найбольш магутныя фірмы гэтых краін пастаўлялі гітлераўскай арміі ваенную тэхніку і прамысловую сыравіну. Непасрэдна на ўсходнім фронце, а ў тым ліку і пад Сталінградам, знаходзіліся армейскія групіроўкі „саюзнікаў“ Гітлера: італьянцы, румыны і венгры. Тры чвэрці ўсіх сваіх сіл кінуў Гітлер на ўсходні фронт, каб толькі зняволіць народы Савецкага Саюза. Славуты „Бліцкрыг“ тут яму аднак не ўдаўся. Першапачаткова заламаўся ён ля сцен Масквы. Маршал Савецкага Саюза Георгій Жукаў адзначае: „...у самы разгар абаронных баёў я мог упэўнена адказаць І. В. Сталіну на яго пытанне аб лёсе сталіцы, што Маскву мы не аддадзім“.

Зламаўшы зубы на Маскве, Гітлер накіраваў свае полчышчы на поўдзень. З пратаколаў генеральнага штаба вермахта вынікае, што Гітлер намагаўся авалодаць бакінскай нафтай і прамысловымі рэсурсамі Данецкага басейна.

У жніўні 1942 года шостая армія генерала Паулюса разам з чацвертай танкавай арміяй прарваліся ў Сталінград. У некаторых месцах дайшлі яны нават да Волгі.

Горад баранілі салдаты 62-ой Савецкай Арміі пад камандаваннем генерала В. І. Чуйкова, а таксама некаторыя часці 64-ай арміі генерала М. С. Шумілава. Разам з насельніцтвам горада і рабочымі сталінградскіх заводаў на працягу паўгода часу змагаліся яны за кожны дом, за кожную вуліцу. Змагаліся бяспрыкладна. Усе паўтаралі лозунг: **„Ні кроку назад!“**

Удзельнік гэтых баёў, наш зямляк Андрэй Лукашук з Вулькі Нурэцкай расказваў мне, што неаднойчы даводзілася па некалькі гадзін весці бой нават за адзін паверх нейкага будынка.

— Прарваліся мы ў дом, — кажа ён, — а фрыцы — на першы паверх. Завязаўся рукапашны бой. Адзін здаравенны гад ухапіў мяне за гімнасцёрку і валачэ ўжо да акна. Я, як бачыш, невялічкі, лёгкі. Ужо перад вачыма замільгацеў брук вуліцы... І тады іншы баец, мой сябра, прыбіў гэтага фашыста кінжалам. Толькі грудзі ад маёй сарочкі разам з медалямі асталіся ў лапе гітлераўскага ваякі...

Каб выручыць геройскіх абаронцаў Сталінграда, галоўнае камандаванне Савецкіх войск падрыхтавала і паспяхова ажыццявіла план магутнай стратэгічнай аперацыі. Распачалася яна 19 лістапада 1942 года і закончылася 3 лютага 1943 года поўным разгромам шостай гітлераўскай арміі, якой камандаваў фельдмаршал Паўлюс. У развалінах Сталінграда знойдзена 147 200 трупаў фашысцкіх салдат і афіцэраў, 24 генералы, 2500 афіцэраў і звыш 90 тысяч астаўшыхся ў жывых салдат здаліся ў палон. Разам з імі — фельдмаршал Паўлюс.

Сталінградскую перамогу з радасцю віталі саюзнікі Савецкага Саюза. Красамоўна выказаў гэта прэзідэнт ЗША ў спецыяльнай віншавальнай грамаце, накіраванай гораду Сталінграду. Адначасова пачаліся трэшчыны ў гітлераўскай кааліцыі. Японія і Турцыя ўстрымаліся ад яўнай агрэсіі супраць краіны Саветаў. Сваю незадаволенасць — хаця яшчэ ціха — пачалі выказваць некаторыя прадстаўнікі Італіі, Румыніі і Венгрыі. Сталінградская перамога стала пачаткам канца трэцяга рэйха. „Значэнне сталінградскай бітвы, сцвярджае маршал Жукаў, — прызнаюць цяпер усе“.

Віктар Рудчык
Фота архіў

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Тры гады Уладзіміра Баршчэўскага з Маліннікаў • Быстры • Гмінныя навіны (новая рубрыка) • У наваполацкім „Паліміры“ • Віктара Шведа — паэзія па-за прыстанню • Выдумкі з прыпевам • Ажыў! • Вестк з Бельска, Грыгораўцаў, Ставішчаў, Бандароў, Шудзялава • Калі сніца, што з зуба вылецела пломба • Трымайце вуха! (новая рубрыка) • Песня „A ty mnie czekaj“.**




**Sobota 4 II** — 6.30 TTR. Upr. roślin. 7.00 Hod. zwierząt. 9.00 Teleferie. 11.45 Podróż do Alcarii — film TV hiszp. 12.45 TTR. Upr. roślin. 13.25 Mech. rol. 13.55 Pr. dnia. 14.00 Dziennik. 14.10 Obiektyw. 14.30 Radzimy rolnikom. 14.40 Dla dzieci. 15.10 Program rozrywkowy. 16.25 Latarnia czarnoksięska. Montaż niemych komedii Charlie Chaplina. 18.30 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Mściciel z Laramie — western. 22.25 Stolica najlepszym — koncert. 23.20 Dziennik. 23.35 Kino Nocne. Ofiara intrygi — dramat sens. z cyklu „Thrillers”.

**Niedziela 5 II** — 6.55 TTR. Upr. roślin. 7.25 Mech. rol. 7.55 RTSS. Nasze spotkania. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielkie bitwy historii: Bitwa pod Waterloo. 11.45 Dziennik. 12.05 Rolnicze rozmowy. 12.30 Klub sześciu kont. 13.25 Bajki pana Perrault: Śpiąca królewna. 14.05 Elza z Afrykańskiego buszu — odc. IX (ostatni) ser. ang. 14.55 Piórkiem i węglem. 15.20 Los. Dużego Lot. 15.35 Koncert na zakończenie II Fest. Pol. Filmów i Wid. Tel. — Olsztyn 78. 16.35 Tele-echo. 17.35 Sport. 19.00 Wieczorynka 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Czterdziestolatek — ser. 21.50 Sport. 22.10 Dziennik. 22.30 Teatr Komedii. M. Mikrović: Włamanie o północy. 23.25 Muzyka przed północą.

**Poniedziałek 6 II** — 12.45 RTSS. Fizyka. 13.25 TTR. Mech. rol. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT (nauki polit.). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.20 Sport. 18.05 Saga rodu Palliserów — odc IV ser. ang. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Telewizji: Eurypides: Medea. 21.35 Sonda. 22.05 Dziennik. 22.20 Camerata.

**Wtorek 7 II** — 6.30 RTSS. Fiz. 7.00 TTR. Mech. rol. 12.45 Chemia. 13.25 Wskaz. met. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 TV Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Rozmowa na migi. 17.50 Dwa miasta. 18.20 Człowiek i przyroda — ser. przyr. hiszp. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Czerwony płaszcz — duńsko-szwedzko-islandzki film przygodowo-hist. 22.10 Dziennik. 22.25 Teatr Małych Form. Michał Misiorny wg. B. Brechta „Bestia”.

**Środa 8 II** — 6.30 RTSS. Chemia. 7.00 Wskaz. met. 12.45 J. pol. 13.25 Mat. 14.25 W drodze do nowego. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT (naucz. począt.). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Entliczek-słowniczek. 17.00 Spoza gór i rzek. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.15 Kółko i krzyżyk. 18.30 Między nami jaskiniowcami. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kto ryzykuje — ang. dramat woj. 22.20 Muzyczny kinematograf — pr. rozr. 22.50 Dziennik. 23.05 Godzina literacka.

**Czwartek 9 II** — 6.30 RTSS. J. pol. 7.00 Mat. 12.45 J. pol. 13.25 Fiz. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Turystyka. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 18.00 Patrol. 18.20 Życiorysy. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Super gang — ameryk. dramat sens. 22.20 Pegaz. 23.05 Dziennik.

**Piątek 10 II** — RTSS. J. pol. 7.00 Fiz. 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT (psych.). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Legendy z Wiślanego brzegu. 16.55 Spotkania z medycyną. 17.25 Opowieść o przyjaźni — odc. V ser. 18.40 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Rytm serca — polski dramat psych. 21.45 Studio Gama. 22.30 Dziennik. 22.45 Studio Gama. 23.35 Kino Nocne: Śpiąca królewna — ang. film sens.




**Piątek 3 II** — 8.05 Film fab. 16.45 Cyrk. 17.50 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 19.30 Film fab.
**Sobota 4 II** — 9.00 Film fab. 12.00 Hokej. Skrzydła Rad—CSKA. 14.15 Film fab. 16.15 Nie do wiary. 17.20 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 21.10 Pr. estrad.
**Niedziela 5 II** — 9.00 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 11.30 Sepktakl. 12.55 Panorama międzynar. 13.30 Filmy anim. 14.00 Klub film. 15.00 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 17.30 Filmy Chaplina. 19.30 Mistrz. świata w piłce ręcznej. Finał.




**Białowieża** Kolumna Trojana — rum. 7—8. Złotodajna rzeczka — radz. 9—10. Kochaj albo rzuć — pol. 11—12.

**Bielsk Podlaski** Tajemnica — fr. 7—8. Sprawa Gorgonowej — pol. 9—10. Sędzia z Texasu — USA 11—12.

**Czeremcha** Dwaj panowie bez parasola — rum. 7—8. Jesień debiutantów — rum. 11—12.

**Czyże** Dziewięć miesięcy — węg. Filipek — NRD 8—12.

**Dubicze Cerkiewne** Nieproszeni goście — radz. Smuga cienia — pol. 8—12.

**Gródek** Gehenna — pol. 11—12.

**Hajnówka** Ostatni z Fleksnosów — norw. 6—7. Odbicie w lustrze — węg. 8—9. Diabli mnie biorą — fr. 10—12.

**Michałowo** Trzęsienie ziemi — USA 7—8. Bubu z Montparnasse — wł. 9—10. Granica miłości — węg. 11—12.

**Mielnik** Czarna karawana — radz. 8. O carski tron — buł. 11—12.

**Milejczyce** Przygody Robinsona Kruzoe — radz. 7—9. Milioner — pol. 9—10. Pocztówka z polnymi kwiatami — rum. 11—12.

**Narew** Syrenka i książę — buł. Opadły liście z drzew — pol. 8—12.

**Narewka** Anno Domini 1573 — ang. Klatka — fr. 8—12.

**Nurzec** Szary okrutnik — radz. 7—8. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 9—10. Avanti — USA 11—12.

**Orla** Cyrk w cyrku — czes. To jeszcze nie miłość — NRD 8—12.

**Rajsk** Przepraszam czy tu biją — pol. Skazańcy — buł. 8—12.

B.Z.Graf. Zam. nr 238 7900 egz. N-4

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 229

### НАШЫ ЛІТАРАТУРНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

На працягу мінулых гадоў некаторыя прадстаўнікі аб'яднання „Белавежа" нямала зрабілі для пашырэння погляду, быццам бы сучасная беларусамоўная літаратура Беласточчыны вырасла па сутнасці на пустым палетку, а мясцовы фальклор, вучнёўскія вершыкі і сялянская графаманія былі бадай усім, што папярэджвала творчыя здабыткі белавежцаў[1]).

Такая пастаноўка пытання абмяжоўвае дыяпазон нашай літаратурнай традыцыі і не садзейнічае яе вывучэнню. І таму не мэтанакіраваныя пошукі, а толькі выпадкова знойдзеная ў віленскай „Крыніцы" (№ 12 ад 25.3.1925 г.) кароткая інфармацыя пра М. Арла дазволіла „адкрыць", што ўжо паўстагоддзя да ўзнікнення аб'яднання „Белавежа" паэтычны палетак Беласточчыны рунеў прыгожай і шматабяцаючай зеленню. Яго вядучым прадстаўніком быў спамянуты М. Арол — сучаснік Купалы, Коласа і Багдановіча, актыўны ўдзельнік адраджэнскага руху нашаніўскай пары.



М. Арол, 1916 г.

## М. АРОЛ — НАШАНІЎСКІ ПЯСНЯР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

М. Арол (сапраўднае імя і прозвішча Сцяпан Пятэльскі) нарадзіўся каля 1890 г. у Гарадку Беластоцкага павету ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Тут атрымаў ён пачатковую адукацыю, пасля чаго вучыўся ў царкоўнанастаўніцкай школе ў Ялоўцы, якую закончыў у 1909 г. На працягу наступных гадоў малады настаўнік жыў і працаваў у Ялоўцы і Гарадку, а таксама ў Струзе і Парэччы на Гродзеншчыне.

У пачатку першай сусветнай вайны сям'я Арла эвакуіравалася ў Расію, а ён сам быў пакліканы ў армію. У 1916 г. за баявыя заслугі быў узнагароджаны вышэйшым тагачасным ваенным ордэнам — Георгіеўскім крыжам. Апошнюю вестку да сям'і выслаў 25 верасня 1917 г. з Украіны, дзе стацыянавала яго 16 артылерыйская брыгада. Там жа памёр ад эпідэміі тыфу ў канцы 1917, або ў 1918 г., пражыўшы ўсяго 28 год.[2]).

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г., узнікненне першых беларускіх газет, а таксама аднаўленне беларускага кнігадрукавання былі магутнымі фактарамі, якія садзейнічалі развіццю творчых сіл маладога паэта. Пачынаючы з 1909 г. з розных куткоў Беласточчыны і Гродзеншчыны, дзе пражываў Арол, плылі ў рэдакцыю „Нашай нівы" яго творы, большая частка якіх друкавалася ў 1911-1913 гг. Змяшчаліся яны таксама ў нашаніўскіх „Беларускіх календарах", „Зборніку „Нашай нівы", мінскай „Лучынцы" і іншых тагачасных выданнях. Агулам да першай сусветнай вайны з'явілася ў друку да паўсотні асобных твораў нашага земляка.

Асноўным жанрам творчасці Арла была паэзія, у якой найбольш выразна выявілася яго таленавітасць, на што ўжо ў 1913 г. звярнуў увагу такі аўтарытэтны крытык як Максім Багдановіч[3]). Вершы Арла адлюстроўваюць шырокі дыяпазон пытанняў тагачаснай эпохі, якія ў большай ці меншай меры хвалявалі ўсю плеяду нашаніўскіх паэтаў. Сярод іх праблемы сацыяльнай рэчаіснасці і вобраз паняволенага роднага краю займаюць несумненна цэнтральнае месца.

Вершам гэтага цыкла характэрны не толькі высокі грамадскі пафас, публіцыстычная накіраванасць, але і непахісная вера ў лепшую будучыню, у перамогу праўды над сіламі зла і цемры („У дарозе", „Досвіта", „Сычам і совам" і іншыя). Моцным акордам веры ў творчую здольнасць чалавека загучаў у прыватнасці верш „Сяўцом" — своеасаблівы заклік „усіх здольных, ліцамі ўдалых" да стваральнай працы на сваёй радзімай „дзікай травой пакрытай" ніве.

Як слушна заўважыў мінскі літаратуразнаўца М. Мушынскі, „ужо ў ранніх творах Арла ярка праявілася схільнасць да філасафічнасці, да шырокай абагульненасці малюнка і ўзбуйнення мастацкага вобраза. Рэальны план у яго вершах нярэдка пераплятаецца з абагульнена сімвалічным"[4]). Вершы такога тыпу, як „Смерць і жыццё", „Надзея", „Агляд жыцця", „Ахвяра", „Арфа" і іншыя складаюць даволі выразна акрэслены цыкл, які займае значнае месца ў творчасці паэта.

Ёсць у Арла рад вершаў, у якіх карыстаецца ён фальклорнай паэтыкай, творча пераасэнсоўваючы народна-песенныя традыцыі сваёй Беласточчыны. Аб гэтым сведчаць у прыватнасці такія творы, як казка „Доля і жабрак", лірычныя „Ноч" і „Песня" („Каб была я птушкай"), ці „Смерць мужыка". Цікава заўважыць, што яго другая „Песня" („Сядзіць голуб на бярозе") амаль жыўцом вынята з мясцовага фальклорнага рэпертуару і з некаторымі зменамі спяваецца яшчэ сёння на Беласточчыне.

Важнае месца ў пісьменніцкай спадчыне Арла займаюць празаічныя творы — апавяданні і пераклады з рускай мастацкай літаратуры. Аднак найбольшай увагі заслугоўвае яго публіцыстыка. Надрукаваныя ў „Нашай ніве" і „Беларускіх календарах" (1911-1914 гг.) яго артыкулы „Аб беларускай песні", „З нашага жыцця", „Спявайце свае песні", „Аб беларускай моладзі" сведчаць аб вялікіх здольнасцях Арла як наглядальніка і каментатара разнастайных аспектаў грамадскага і культурнага жыцця народу на пачатку нашага стагоддзя, як прапагандыста прагрэсу роднага асяроддзя. У гэтым плане надзвычай цікавай з'яўляецца яго карэспандэнцыя з Гарадка („Наша ніва" ад 25.8.1911 г.) — нячаста сустракаем па сіле экспрэсіі заклік да мясцовай беларускай інтэлігенцыі парваць з алкагалізмам і карцёжніцтвам, з культурнай апатыяй і нацыянальным нігілізмам, так характэрнымі для беспрасветнай эпохі царскага самадзяржаўя.

Творчасць М. Арла, якая атрымала станоўчую ацэнку літаратуразнаўцаў М. Багдановіча, М. Гарэцкага, І. Дварчаніна, М. Мушынскага, да гэтай пары даследавана выключна недастаткова. Значная частка яго вершаў яшчэ невядома шырэйшаму кругу чытачоў. Пры гэтым варта ўспомніць, што напярэдадні першай сусветнай вайны Арол падрыхтаваў і паслаў у Віленскае выдавецкае таварыства зборнік сваіх вершаў „Лірнік", які ў сувязі з ваеннымі падзеямі не дачакаўся выдання. На жаль, не дачакаўся ён гэтага і на працягу мінулага 60-годдзя, хаця паводле атрыманых звестак, рукапіс „Лірніка" захаваўся ў Вільні.

(Працяг на стар. 4)

### ВЯСНОЮ

Як прыходзіць вясна, маю душу яна
Ўсю трывогай якойсь напаўняе.
Будзіць мары душы, родзіць сон залаты,
Казку дзіўну пяе-напявае.
Ветры сціха гудзяць, зямля, лес зеляняць...
Ўсюды новае жыцце лунае.
А у глыбі нябёс жыцця новага лёс
Срэбнай песняй жаўрук сустракае.
Ў гэты час ў душу мне жыццё хваляй хлыне
І магутную сілу падыме.
Томяць сілы мяне, мучаць сілы мяне,
Не магу я ужыцца за імі.
Хочуць працы святой, працы дзіўнай такой,
Як бы тая вясняна святая.
Каб нанова стаць жыць, нова жыцце тварыць,
Толькі працы такой я не знаю...
Мучаць сілы дарма, для іх дзела няма!
Не даюць мне мінуты спакою.
З імі я як ў агні, і не радасна мне
Нават гэтаю дзіўнай парою.

(„Наша ніва", 7.VI.1913 г.)

### АРФА

*Калі к Саулу прыступаў*
*Дух цёмнай нуднасці і злобы*
*І горш ад цяжкае хваробы*
*Яму спакою не даваў, —*
*Тады Давіда браў Саул*
*І з арфаю Давід яўляўся*
*І ад Саула адступаўся*
*Злы дух пад дзіўны арфы гул.*
*І цар спакойна засынаў.*
*Нуда, трывогі адступалі*
*І цёмны думкі не чапалі,*
*Пакуль Давід на арфе граў.*
*Як арфа, ты маёй душой*
*Ўладаеш, ў родны край надзея!*
*Пакуль твой луч у сэрцы тлее,*
*Я знаю радасць і спакой.*

(Дварчанін, Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры, Вільня 1927.)

### ПЕСНЯ

Сядзіць голуб на бярозе,
Галубка на вішні:
— Скажы, скажы, маё сэрца,
Што маеш на мыслі?
Як не хочаш, маё сэрца
Дружынаю быці,
То дай жа мне таго зелля,
Каб цябе забыці.
— Расце тое ў мяне зелле
Блізка пералазу,
Як дам табе напіціся,
Забудзеш адразу!
— Ой, піць буду, хоць праз сілу
І дзянькі і ночы!
Толькі ж цябе я забуду,
Як пагаснуць вочы...

(„Беларускі каляндар на 1912 г.")

### АГЛЯД ЖЫЦЦЯ

*На жыццё на маё*
*агляну́ся назад.*
*Мала ўцех там знайду,*
*Дарагіх многа страт.*

*Чаго ждаў — не збылось,*
*У што верыў — няма,*
*І прайшло паўжыцця*
*Пракацілась дарма.*

*Кінеш вокам ўпярод, —*
*Там разлёгся туман...*
*Падтасуеш усё,*
*То ўсё жыцця абман...*

(„Наша ніва", 5.IV.1913)

### ДУМКІ

*Бываюць часіны — душа замірае*
*І ўжо не гаворыць, маўчыць.*
*Нічога не чуе, нічога не знае,*
*Дрымотаю цяжкай скаваная спіць.*
*І робіш з прывычкі, ідзеш, клапацішся,*
*Ўвакол гледзячы на людзей,*
*Чагосьці жадаеш, чагосьці баішся,*
*А час, як вада, ўсё плыве і плыве...*
*І я, як і іншыя людзі, здаецца,*
*Ланцуг свой штодзённы цягну,*
*Пакуль не паўстане, пакуль не прачнецца*
*Душа ад забыцця, ад цяжкага сну.*
*Надыйдзе часіна, чымсь мілым чароўна*
*Павее на душу маю.*
*Яна ўстрапянецца чароўнасці поўна,*
*І просяцца песні... і я іх пяю.*
*І кружацца думкі, смутныя такія,*
*За сэрца хапаюць, шчымяць...*
*Ды людзям ніколі я іх не адкрыю —*
*Ніхто не павінен іх ведаць, ні знаць,*
*Бо людзі не поймуць: іх душы — каменні,*
*Што ў полі маўкліва ляжаць,*
*І трэба ім грому, маланкі, праменн̆я,*
*Каб сонныя вочы да неба падняць!*

(„Наша ніва", 20.X.1911.)



* ✻ *

Часта мне жыць не пад сілу прыходзіцца,
Сумная думка ў душы маёй родзіцца,
Сэрца нудою шчыміць,
Як пагляджу, што навокал нас дзеецца:
Сілы нет, веры на жыццё надзеяцца,
Ажно не хочацца жыць!
Усё, што ўзрасціла старонка любімая,
Усё, што магла даць, як матка радзімая,
Усё на сынкоў аддала.
Чым жа яны ёй за ўсё адгадзіліся?
Тым, што зусім ад яе адхіліліся,
Быццам не маць ім была...
Сэрца ад гневу маё разрываецца,
З губаў праклящце, сынкі, вам зрываецца,
Вам, Беларусі сыны!
Вы адракліся, забылі, пакінулі,
Вы для старонкі радзімае згінулі,
Вы не яе ўжо сыны!
Усё што магла аддала вам любімая,
Быццам як матка для дзетак радзімая,
Ждала адплаты, уцех!..
Доўгу ж свайго вы прад ёю не споўнілі:
Грабіць — аграбілі, а не напоўнілі...
Ці ж вам не стыдна, не грэх?!

„Наша ніва", (25.VIII.1911.)

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# Рыгор Хіліманюк

Біяграфія яго нічым асаблівым не выдзяляецца. Нарадзіўся і вырас у вёсцы Катлоўка. У 1939 годзе быў салдатам польскай арміі і ўдзельнічаў у цяжкіх баях з немцамі пад Астралэнкай. Вярнуўся дамоў, узяўся за гаспадарку. А калі наступіла вызваленне ад нямецкіх захопнікаў, далей займаўся апрацоўкай зямлі, праяўляючы актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Быў некалькі разоў радным ГРН. Цяпер шмат часу прысвячае дзейнасці ў мясцовым ЗБоВіД.

Рыгор Хіліманюк не біяграфіяй, а сваімі здольнасцямі выдзяляецца сярод сялян. Здавалася б, зрабіць табурэтку, ложак, стол, дзежку, кубак на ваду, ці драўляную маслабойку — гэта простая справа. Аднак не кожны гэта зробіць. А ён жа гэтаму рамяству не абучаўся. Не абучаўся ён таксама сталярскім работам. Але вокны і дзверы яго прадукцыі высокай якасці. Калі трэба было яму пабудаваць хату, адважыўся ён узяцца і да такой даволі складанай працы. Пабудаваў таксама ўласнымі рукамі печку-сцяноўку, якая ўжо агравае хату 20 гол.



Пасля таго, як яго вёска Катлоўка атрымала электрычнае святло, Рыгор Хіліманюк электрычны ток пачаў выкарыстоўваць як электрычную сілу. Сам зрабіў крайзэгу, якою пілаваў дровы і дошкі. Пасля абсталяваў габлярку, а яшчэ пазней пазычыў у суседа Янюка спаварку і цяпер мае магчымасці займацца шматлікімі іншымі работамі.

Рыгор Хіліманюк вядомы ў сваёй вёсцы як майстар на ўсе рукі, які за што толькі не возьмецца, добра зробіць. І вядома, што ён не муляр, аднак людзі просяць яго да гэтых работ. І цяпер у Катлоўцы красуецца мураванка, якую ён пабудаваў.

У Хіліманюкоў былі дзве дачкі. Павыходзілі яны ўжо замуж і цяпер жывуць і працуюць у Гайнаўцы. Адна з іх са сваім мужам узялася за будову ўласнага дома. Зразумела, да гэтай будовы пачаў рыхтавацца Рыгор Хіліманюк. Зрабіў ён пачаткова бетанярку ўласнай канструкцыі, каб не мяшаць уручную цэмент і вапну, бо гэта вельмі цяжка і марудна. Пасля прыступіў ён да канструкцыі грузапад'ёмніка, каб не насіць цяжкіх будаўнічых рэчаў.

Як бачым, чалавек гэты адораны вялікім талентам. Каб ён меў тэхнічную адукацыю, напэўна быў бы з яго інжынер высокага рангу. Быў бы Рыгор Хіліманюк малодшы, дык мо ён падумаў бы аб адукацыі. Але цяпер яму ўжо за 60.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



**ВЕСТКІ З ВАСІЛЬКОВА**

# Бацькі — дзецям

На працягу многіх гадоў прадшколле ў Васількове магло прыняць толькі сто дзяцей. Знаходзілася яно ў спецыяльна дастасаваным прыватным будынку па вуліцы Войтаха, уласнікі якога выехалі на нейкі час. Месца ў ім не было дастаткова для ўсіх дзяцей, якім была неабходна апека ў час працы іх бацькоў.

І вось здарылася так, што адно з прадпрыемстваў звольніла займаваны будынак, а з часам выкарыстоўвала яго на магазін. Тады ўзнікла думка, каб памяшканне выкарыстаць больш карысна. Напрыклад, памясціць у ім са два прадшкольныя аддзяленні. У рэалізацыі гэтай задумы дапамог старшыня васількоўскага жыллёвага кааператыва, які знайшоў месца на магазіны ў падвалах блокаў. У будынку па вуліцы Касцельнай можна было прыступіць да рамонту; улады куратарыі асветы і выхавання ў Беластоку паабяцалі павялічыць колькасць кваліфікаванага персаналу. Дырэкцыя мясцовай школы адразу была гатова адступіць частку свайго панадворка на месца для гульняў прынятых у прадшколле дзяцей.

Бацькі будучых прадшкалякоў дружна ўзяліся за рамонт даволі прасторнага будынка. Пачалі ад пабудовы новай электраўстаноўкі, новага водна-каналізацыйнага абсталявання, малявання сцен, столі і вокнаў. Так працавалі ад 20 жніўня да 1 кастрычніка мінулага года. Раздабылі яны будаўнічыя матэрыялы, фарбу. Сярод бацькоў былі розныя спецыялісты. На працу прыходзілі то адны, то на наступны дзень другія сем'і. Усе хацелі, каб іх малышы атрымалі месца ў прадшколлі.

1 кастрычніка ў адрамантаваным будынку былі гатовы: дзве залы для практычных заняткаў — адна для дзяцей ва ўзросце шасці гадоў і другая для чатырохгадовых, сталовы пакой з сучасным кухонным абсталяваннем, дзве ванныя, гардэроб. Усё гэта заняло плошчу велічынёю ў 140 квадратных метраў. Першы дзень кастрычніка быў самы радасны для новапрынятых дзяцей. Іх захаплялі ветлівыя выхавацелькі, розныя цацкі, светлыя пакоі, усё новае, свежае, супольнае снеданне, а затым і абед і яшчэ падвячорак.

Прайшло ўжо тры месяцы, і новапрынятая ў прадшколле васількоўская дзетвара падружылася. Цяпер усе рыхтуюцца да навагодняй ёлкі, першай у такой дружнай і вялікай грамадзе. „Ніву" таксама запрасілі да сябе.

**Я. Цялушэцкі**

## ФАЛЬКЛОР




*— Мэдовая чарачка, гэй, мэдовая,*
*з кім я буду піць-гуляць, маладая?*
*з кім я буду піць-гуляць, маладая?*
*Як паехаў міленькі, гэй, у дарогу,*
*кінуў, кінуў мілую ніздарову,*
*кінуў кінуў мілую ніздарову.*
*Як прыехаў міленькі, гэй, з украіны,*
*чэпіў, чэпіў коніка да каліны,*
*чэпіў, чэпіў коніка да каліны.*
*Чэпіў, чэпіў коніка, гэй, да каліны,*
*а сам прыпаў сэрдэньком да магілы,*
*а сам прыпаў сэрдэньком да магілы.*
*— Ой ты, сыра земленька, гэй, разыдзісе,*
*а ты, мая мілая, пакажысе,*
*а ты, мая мілая, пакажысе.*

Ад Паўла Галубоўскага, 1908 года нараджэння, вёска Новае Ляўкова гм. Нараўка, запісаў 26 лістапада 1977 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**дэнчатка** — свіная кішка. А в нас сёголіта кішок колбасных забракло. Туолько мяса зосталося, што мусіла дэнчатку начыняті. А наш стары за дэнчаткою аж гінэ. Наліла я і спэкла на Гоготуху, то чуть нэ половіну спэр.

**жэрэло** — дрыгва, непраходнае балота. Тут такое колісь жэрэло было, што аж подуматі страшно. По ціэлум жэрэліэ трубы такіе рослі. А посэрэдіні жэрэла грудочок быў, трава гожа росла. То мы клалі чэрэз жэрэло доскі, пэрэводілі коні і воны там пасліся ціэлэ ліэто.

**кутэнь** — вычышчаны свіны жалудак і начынены фаршам, які складаўся з дробна пасечаных пячонкі, лёгкіх, почак, сэрца і сала. Я думала, што з такого паршучыска то якій той і кутніско будэ? А тут нормальны кутнік.

**отстановітісь** — зацяжарыць, у адносенні да кабылы. Мусіт трэба будэ свою кобылу продаті, бо вжэ трэті руок ніяк отстановітісь нэ можэ.

**стромотыч** — упасці проста на галаву. Але ўжываецца толькі ў прамым значэнні. То гэн наша малая! І то на очух. Біегла, скакала по туом луожэчку і раптом як нэ пэрэхілітся — і стромотыч на помуост.

*(Пиліпкі, гміна Бельск)*

(Працяг са стар. 1)

# ЯЕ ДНІ І ГАДЫ

родная мова. І так да ўсяго ранейшага далучыліся яшчэ лекцыі, кансультацыі, экзамены — яна цалкам патанула ў гэтым мностве абавязкаў.

З-за іх нават добра і не заўважыла, як сын закончыў прафесіянальную школу ў Гайнаўцы, вырас на здаровага мужчыну. Гэта яна прыкмеціла толькі тады, калі ён, стройны і з румянцам на шчоках, у вайсковым мундзіры прыехаў на пабыўку.

Доўгі час не магла дараваць сабе, што сын не атрымаў поўнай сярэдняй адукацыі. Вінавaціла сябе, што не дапільнавала, не дагледзела. „Што ж, дзіця расло без бацькавай рукі", — маўляла ў сваё апраўданне.

Вечна сама! А магло ж быць інакш, бо былі кандыдаты да замужаства. Але яна адмаўляла. Не хацела парушыць памяці мужа.

Каб залішне не расчульвацца над сабой, з галавой акунулася ў настаўніцкую працу і грамадскую дзейнасць. Дзейнічала як член ПАРП і як ініцыятар культурнага жыцця ў асяроддзі. З дзецьмі рыхтавала багатыя мастацкія часткі на розныя ўрачыстасці, а з дарослай моладдзю ставіла „Пярэстую красулю", „Мікітаў лапаць", „Гарадскія госці", ездзіла на выступленні ў суседнія вёскі. Але перш за ўсё дбала, каб яе вучні грунтоўна авалодалі ведамі, каб былі працавітымі, дбайнымі, светлымі, культурнымі, каб выраслі на парадачных людзей. І выраслалі. З яе былых вучняў толькі з адной сям'і Магрукоў трое здабылі вышэйшую адукацыю: эканаміст, лекар і юрыст; з сям'і Грыгарукоў выйшлі два афіцэры, з... ці ж пералічыш іх усіх?

Перамены не абміналі і яе жыцця. Ажаніўся сын. Яна ў 1966 годзе развіталася з Галадамі. З болем у сэрцы. Бо як ні як, але ладны кавалак жыцця ў іх пакінула. На новым месцы ў Войшках: новыя сябры-настаўнікі, новыя ўмовы — ўсё іншае. Праца ж такая самая, але з большым запалам. Бо палавіна сэрца заўсёды была пры сям'і сына ў Бельску. Пасыпаліся ўнукі, і яе проста акрылілі, абнавілі. І сына таксама: ён завочна закончыў механічны тэхнікум і цяпер працуе механікам. І, быццам спаборнічаючы з ім, пані Валя пачала вучыцца ў настаўніцкім радыё-тэлевізійным універсітэце. Нядаўна закончыла яго з вялікім задавальненнем для сябе і канкрэтнай карысцю для яе цяперашніх выхаванкаў.



Валянціна Сідарук не належыць да тых людзей, якія любяць самі сябе пахваліць і ахвотна настаўляюць вуха, калі іншыя іх хваляць. Яна не з такіх. Скромнасць — вось адметная рыса яе характару. Але калі пяць год таму назад, пры ўручэнні ёй Залатога Крыжа Заслугі, яна пачула некалькі прыемных слоў аб яе шматгадовай працы, на сэрцы ў яе неяк пацяплела. І ёй успомніўся муж Іван, у думках яна сабе сказала: „ І я таксама нядрэнна ваюю, праўда?.."

Калі ўжо апусцее школьны будынак, і людской гамонкі ў ім толькі з радыёпрыёмніка, тады ў пані Валі пачынаецца час непаспешлівых разважанняў ды роздумаў. Ці то рыхтуючы абед (ну і абед — усяго на адзін уласны рот ды яшчэ з аглядкай на лінію сваёй фігуры), або тупаючы каля гаспадаркі (а гаспадаркі тае — некалькі курак у хлеўчыку), асабліва ж пры доглядзе кветак, што пад яе дбайным вокам буяюць усюды па школе: на кветніках, шафах, сталах, вокнах. Цудоўных кветак...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

 

# ТРЫБУНА чытачоў

(Працяг са стар. 1)

## Карэспандэнт года

Нарве, Кляшчэлях, Белавежы, у гарадское ўпраўленне ў Бельску, два ГС-ы — у Кляшчэлях і Гайнаўцы, а таксама ў аддзяленне „Сполэм“ ВСС у Бельску. У іншыя ўстановы і арганізацыі — па адной-дзве.

На працягу 1977 года мы змясцілі ў „Ніве“ 147 менш і больш крытычных матэрыялаў, з якіх 96 выслалі ў інтэрвенцыйных лістах розным адміністрацыйным і гаспадарчым установам, кіраўніцтвам паасобных прадпрыемстваў, ведамстваў і арганізацый. Да канца 1977 года на найбольш канкрэтную крытыку нашых карэспандэнтаў мы атрымалі і апублікавалі 89 адказаў. Варта дадаць, што разам з адказамі на крытычныя артыкулы, заметкі і фельетоны журналістаў „Нівы“ на сёмай старонцы ў рубрыцы „У адказ на нашу крытыку“ мы апублікавалі 118 адказаў. Для параўнання: у 1976 годзе ўсіх змешчаных у „Ніве“ адказаў было 87.

У хуткім часе і дзелавітыя адказы даюць амаль усе ўстановы і арганізацыі. Пішам амаль, бо ёсць аднак і такія, якія зацягваюць з адказамі або не даюць ніякага водгуку. Да такіх належыць: начальнік станцыі ПКП у Гайнаўцы і гмінныя ўпраўленні ў Белавежы і Сямяцічах.

Публікацыі крытычнага зместу — гэта багатая мазаіка дакучлівых для людзей спраў і праблемаў. Іх аўтары кляймуюць непарадкі, дрэнную арганізацыю працы, марнатраўства, людскую абыякавасць, неахайнасць, негаспадарнасць, нядбайнасць, бюракратызм і г.д. Багатая колькасць карэспандэнцый датычылася спраў па лініі ўпраўленне — грамадзянін. Пад пастаянным абстрэлам крытыкі знаходзіцца гандаль, справы забеспячэння таварамі першай патрэбнасці, абслугоўванне кліентаў, камунікацыі (спазненне аўтобусаў і паяздоў, кепскае ацяпленне, нядобрасумленнасць у выкананні службовых абавязкаў білецёрамі ў аўтобусах, незабіранне пасажыраў, неахайнасць ва ўтрыманні сродкаў публічнай камунікацыі). Крытыкавалася работа вясковых паштовых устаноў. Прадметам крытычных заўваг былі міжлюдскія адносіны, дрэнныя сацыяльна-бытавыя ўмовы і бгп, разлічэнне з камандзіровак. Гэтыя апошнія бяруцца з малых прадпрыемстваў, у якіх адміністрацыя не зусім добра ведае абавязваючыя правілы.

Адрасаты крытычных публікацый у сваіх выясненнях толькі ў нешматлікіх выпадках падаюць, што закіды не пацвердзіліся. Гэта сведчыць аб тым, што нашыя карэспандэнты дакладна і добрасумленна даследуюць справы. Вельмі пажаданым было б, каб яшчэ больш было рэплік у рубрыцы „Адгалоскі“. Хацелася б ведаць, ці згаджаецца з адказам той ці іншай установы наш карэспандэнт і наколькі крытыка была паспяхова. Бо і так бывае, што адрасат крытыкі дае адказ толькі таму, каб рэдакцыя не падганяла, каб быць у згодзе з абавязваючымі правіламі адносна выясненняў на крытычныя публікацыі, а рэшта — гэта ўжо іншая справа. Бываюць адказы агульныя, у якіх крытыкаваныя паказваюць свае дасягненні, а не гавораць аб аб'екце крытыкі, засланяючца аб'ектыўнымі цяжкасцямі, кампетэнцыяй вышэйстаячай інстанцыі і г.д.

Крытычныя заўвагі, змешчаныя ў публікаваных прэсавых матэрыялах, могуць паслужыць установам і прадпрыемствам і паасобным іх звенням да таго, каб рабіць вывады ў адносінах да вінаватых, але таксама больш глыбокіх вывадаў дзеля паляпшэння, а нават удасканалення арганізацыі працы.

**Вера Леўчук,**
**Янка Цялушэцкі**

### ТАК ПРАЯЎЛЯЕЦЦА ТОЛЬКІ ДУРАСЦЬ

Цяпер амаль на ўсіх аўтобусных прыпынках ёсць новыя прыгожыя пачакальні. Яны ашклёныя спецыяльным тоўстым шклом. На жаль, людзі не шануюць гэтага дабра. У многіх пачакальнях чарнеюць дзіркі, прабоіны. Шкло пабітае, хоць тоўстае, толькі вецер свішча. Для прыкладу, прыпынак у Грабаўцы Дубіцкай гміны. У многіх месцах гэтай пачакальні ззяюць дзіркі. Наколькі ж бязмежная чалавечая зласлівасць і дурасць...

**М. Панфілюк**

### МАГІЛЫ БЕЗ НАЗВЫ

У Супраслі, недалёка ад сельскагаспадарчага тэхнікума, з боку ракі, знаходзяцца агульныя магілы савецкіх афіцэраў, партызан і мясцовых людзей, якія загінулі ў час вайны і пахаваны тут у супольных магілах безыменна. Некалі прывезлі сюды і паставілі памятны камень, пасля ён паваліўся.

У апошні час паставілі тры разьбы па дрэве ў выглядзе слупоў. Гэта прыгожа і добра, але нідзе няма ніякай табліцы, хто на гэтым месцы пахаваны і каму гэты помнік зроблены.

Некаторыя магілы трэба прыбраць, бо пазарасталі травой. Здаецца нам таксама, што можна ўстанавіць прынамсі некаторыя прозвішчы людзей, пахаваных тут. Жывуць жа яшчэ людзі, якія помняць тыя часы. У кожным выпадку месцам зборных магіл у Супраслі трэба заняцца больш дакладна. **(в)**

### ЗЛАДЗЕІ

У адзін прыгожы дзень прыйшоў у гурток ЗБоВіД № 3 у Беластоку сляпы чалавек, з белай палачкай. Хацеў заплаціць членскія ўзносы. Яму 86 гадоў. Абое з жонкай з'яўляюцца пенсіянерамі. І вось якую гісторыю расказаў гэты чалавек. У папярэдні дзень жонка ўзяла ўсе іхнія ашчаднасці, бо трэба было зрабіць нейкую большую пакупку. Ідучы па вуліцы Сухой, зайшла ў прадуктовы магазін па хлеб. І тут у яе ўкралі 7 тысяч злотых, пашпарт і службовае пасведчанне ПКП.

Расказваў нам чалавек і горка плакаў. Сёння атрымаў ён пенсію і хутчэй дабраўся ў ЗБоВіД, каб заплаціць узносы, бо не хоча застацца даўжніком. Мы слухалі яго і думалі: як можа зладзею прайсці праз горла тое, што ён купіць за грошы, украдзеныя ў старога чалавека!..

Матэрыяльныя ўмовы жыцця ў нас не прымушаюць людзей красці, і калі хто крадзе, ён не варты, каб яго зваць чалавекам.

**В. Петручук**

### ШТО ГЭТА ЗА УСТАВА, ШТО ВАРХЛЯК НЕ ЁСЦЬ ДАСТАВА?

У нас цяпер гаспадары прадаюць многа свіней, так званых вархлякоў (падросткаў). Купляюць іх найбольш спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў і ПГР-ы. Вархлякі найвыгадней прадаваць летам, бо плацяць тады па 62 зл. за кілаграм жывой вагі.

Калі гаспадар прадае парсюка, дык ГС апрача грошай дае квітанцыю на 200 кг кармоў і 350 кг вугалю за кожную штуку. Калі вугалю гаспадар не бярэ, у замен плацяць яму 1053 зл. грашыма. Таксама маецца справа, калі гаспадар прадае быдла. А калі прадае гаспадар вархлякоў, дык няма яму кармоў. Гаспадары лічаць, што гэта несправядліва.

**Віт**

### ЯН ГАРСТКА

З радоў карэспандэнтаў „Нівы“ адышоў Ян Гарстка (гай), карэспандэнт з тэрыторыі Супрасльскай гміны. Паявіўся на нашых старонках год таму назад і адразу плённа і сістэматычна супрацоўнічаў з „Нівай“. За 1977 год апынуўся на сёмым месцы са сваімі 39 публікацыямі. Высока цанію супрацоўніцтва з „Нівай“.

Выказваем глыбокія спачуванні сям'і нашага карэспандэнта.

### МЯШАНКА СА ШКЛОМ

Купіў я свінням мяшок „провіту“. Гэта надта добры канцэнтрат. Ад яго свінні хутка растуць. Аднойчы жонка, набіраючы з мяшка „провіт“, убачыла кавалак шкла. Прынесла да мяне, ды кажа: „Бач ты, у мяшанцы быў кавалак бутэлечнага шкла ад віна, што ж гэта яны вычаўпаюць?“ „А што ж, можа ты хацела б, каб уклалі цэлую пляшку, ды яшчэ з віном?“ — кажу. „Табе заўсёды жарты ў галаве, пайдзі ды перасей усю мяшанку, бо можа там яшчэ ёсць кавалкі, ды свінні пахварэюць“. „Не бядуй, — кажу жонцы, — яны ж не такія зноў дурні, каб цэлую пляшку, пабітую на кавалкі, усыпаць у адзін мяшок. Яны там пасартавалі ў кожны мяшок па кавалку, каб не было нікому крыўды. Яны ж гэта лічаць за дадатак“.

Гэты мяшок „провіту“ выпрадукавалі рабочыя ГС у Саколцы 17.XII.1977 года. Далучаю да лісту этыкетку ад мяшка і цікавую знаходку ў „провіце“ — кавалак шкла. (Абодва рэчавыя доказы знаходзяцца ў рэдакцыі і кожны, хто захоча, можа іх убачыць уласнымі вачыма).

Дарагія чытачы „Нівы“, адгукніцеся, ці і вам пападаліся такія цікавыя знаходкі ў мяшанцы? Ды жарты на бок, каб свіння ці жывёла з'ела кавалак шкла, кожны ведае, што не пайшло б ёй гэта на здароўе.

**Э. Ш.**




### КАРЭСПАНДЭНТУ ЯСЮ

*Як жывеш, браточак Ясь,*
*Што чуваць ў Пухлах у вас?*
*Ці так вельмі ты змяніўся,*
*Што пра „Ніву“ ўжо забыўся?*
*Як у вас усё ў парадку,*
*Напішы прыемна, гладка,*
*Ёсць у вас людзі прыкладны,*
*Апішы пра іх ты складна.*

**М. Лук'янюк**

ці іх да каменданта і пацвердзіць той факт, што сам правяраў іх дакументы.

Набліжаючыся да Свярдлова, салдат прыбавіў крок, яму не хацелася, каб сустрэчныя лічылі яго чамусьці звязаным з гэтымі дзяўчатамі, якія ідуць у адным з ім напрамку.

— Што ж будзем казаць? — ціха спытала Надзя ў Лены.

— Паўтарай адно і тое ж — едзем з Марыупаля! А калі будуць дапытваць па адной і скажуць, што я ў чымсьці прызналася, не вер!

— І ты не вер! — прагаварыла Надзя.

„Але калі ў камендатуры пачнуць збіваць, ці вытрымае Надзя?“ — падумала Лена, але ўголас гэтага не сказала.

Пра сябе яна не думала. Ёй здавалася, што ў яе хопіць і сіл, і волі прайсці праз усе выпрабаванні. Акрамя таго, яе не пакідала ўпэўненасць, што ўсё павінна абысціся шчасліва. Чаму? Яна не змагла б на гэта адказаць. Напэўна, таму, што яна была яшчэ ў тым узросце, калі думка аб гібелі здаецца зусім немагчымай.

*(Працяг будзе)*

*) Не разумеем! (румын.)

**З лістаў у рэдакцыю**

### Я НА ВЁСЦЫ ЖЫВУ

Дарагая рэдакцыя, пішу табе пісьмо і думаю, што ты мне параіш, што зрабіць. Мне 18 гадоў, жыву я на вёсцы. Калі я хадзіў у пачатковую школу, у пяты клас, тады нас пакінуў бацька. Засталіся мы з мамай, а нас было чацвёра. Старэйшай была толькі сястра. Я, як найстарэйшы з братоў, стаў памагаць маме на гаспадарцы і спыніў вучобу ў школе. Жыць нам было вельмі цяжка. Мама часта хварэла. Ды гады ішлі і мыраслі. І жыць стала лягчэй. У мінулым годзе сястра выйшла замуж, другі брат вучыцца ў сярэдняй школе ў Міхалове. А наймалодшы ў сёмым класе пачатковай школы. Адзін я застаўся на месцы і не ведаю, што далей рабіць. Гаспадарка ў нас невялікая.

Парай, дзе закончыць пачатковую школу і як знайсці працу.

Вася

**Ад рэдакцыі.** Мы вырашылі згодна з просьбай Васі надрукаваць пісьмо поўнасцю. Гэтым самым сёння хочам адказаць на ўсе падобныя пісьмы, якія да нас прыходзяць. Першае, што хочам сказаць, гэта ананімнасць падобных пісем. Вельмі цяжка гаварыць з чалавекам, які не падае поўнага свайго прозвішча і адрасу. Як можам раіць, калі не ведаем нават, адкуль родам Вася. Праўда, на канверце з пячаткі вычыталі мы, што пісьмо было здадзена на пошце ў Рыбалах. Але ж мы заўсёды просім нашых чытачоў, каб да ведама рэдакцыі падавалі поўны свой адрас. Тады куды лягчэй і прасцей рабіць заходы ў канкрэтнай справе.

Дык прынамсі агульны адказ. Школы на вёсках, а асабліва гмінныя школы, арганізуюць вячэрнія курсы па праграме поўнай пачатковай школы плюс сельскагаспадарчая спецыялізацыя. Вядома нам, і аб гэтым часта пішуць нашы карэспандэнты і чытачы, што бываюць такія курсы гадавыя, двухгадовыя, залежна ад запатрабавання. Пасля заканчэння такіх курсаў атрымліваеш пасведчанне аб заканчэнні поўнай пачатковай школы і часта дыплом кваліфікаванага гаспадара. Васю раім параспытваць ў найбліжэйшых школах, ці такія курсы і калі будуць арганізоўвацца і скарыстаць з іх. А потым і працу кожную лягчэй знайсці.

### ЯК БУДЗЕ ДАЛЕЙ?

Дарагая рэдакцыя, звяртаюся да вас у важнай справе — надрукуйце, калі ласка, маё пісьмо ў „Ніве“ і пашукайце адказу ў адпаведных улад.

А справа наступная. У Бельску ў паліклініцы (ЗОЗ) на вуліцы Міцкевіча ёсць скурна-венерычная парадня. Лекарскі кабінет змяшчаецца наверсе, нумар 14. Вядзе да яго вузенькі калідорчык, можа з метр шырынёй. Лекар-спецыяліст Марыя Сэрватка прыязджае з Беластока і прымае ў Бельску пацыентаў толькі раз у тыдзень — у аўторкі, ды і то толькі чатыры гадзіны — ад 8 да 12. А хворых да гэтага лекара ёсць вельмі многа, па 50-60 асоб, а нават і больш. Стаяць хворыя ў чарзе і хвалююцца: ці прыме?

Я з'яўляюся 17-гадовай вучаніцай і да лекара-спецыяліста вымушана хадзіць кожны тыдзень (хварэю ўжо сем гадоў). У мяне многа прапушчаных гадзін. Я, зразумела, атрымліваю адпаведнае пасведчанне, аднак настаўнікі задаюць пытанне: ці аж тры гадзіны была ў лекара?

Мяне цікавіць, як доўга мы будзем яшчэ таўчыся ў тым цесным калідорчыку? Калі можна будзе пайсці да лекара, не прапускаючы гадзін у школе або на рабоце? Ці чатыры гадзіны ў тыдзень — гэта не замала на Бельск?

Крыстына з Бельска

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ПАТРЭБНА ШКЛЯНКА МАЛАКА“, „Ніва“ № 50/1137 ад 11 снежня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNY DYREKTOR SZKÓŁ W SZUDZIAŁOWIE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Potrzebna szklanka mleka” z 50/1137 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 11 grudnia 1977 roku — Gminny Dyrektor Szkół wyjaśnia:

W bieżącym roku szkolnym w dniu 15 listopada 1977 roku na ogólnym zebraniu rodzicielskim w szkole Babiki omawiano sprawę dożywiania dzieci. Większość rodziców nie wyraziła zgody na dożywianie (szklanka mleka). Ustalono natomiast, że dzieci będą przynosiły kawę zbożową, herbatę, kakao lub mleko we własnych termosach.

Obecnie większość dzieci korzysta z tej formy dożywiania. Innych możliwości zorganizowania dożywiania dzieci w szkole w Babikach niem ma, ponieważ brak kuchni a nawet pieca kuchennego, na którym można by było zagotować wodę lub mleko.

W okresie letnich wakacji będzie możliwość zbudować piec kuchenny w suterenie po byłym Urzędzie Gminy i o ile będą chętni rodzice zostanie zorganizowane dożywianie w szkole od nowego roku szkolnego 1978/79. W suterenie było archiwum gminy, które zostało zabrane do Szudziałowa w końcu października 1977 roku. Nie było więc czasu na remont w ubiegłym roku.

**Gminny Dyrektor Szkół**
**mgr Józef Olchowik**

**Да заметкі „НЕЗАКОНЧАНАЯ РАБОТА“, „Ніва“ № 22/1109 ад 29 мая 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W NARWI.**

W związku z notatką prasową pt. „Niezakończona robota”, zamieszczoną w 22/1109 numerze „Niwy” z dnia 29 maja 1977 roku, uprzejmie informujemy, że drogę o nawierzchni asfaltowej ze wsi Rohozy w kierunku szosy Białystok—Narew wykonywał Rejon Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim. Ze względu na to, iż nie posiadaliśmy i w chwili obecnej nie posiadamy środków finansowych na budowę nawierzchni, nie będzie ona wykonana.

Na terenie gminy jest wiele dróg o nawierzchni gruntowej i dlatego w pierwszej kolejności wszystkie środki finansowe są przeznaczone na ich budowę. Natomiast droga ze wsi Rohozy do szosy Białystok—Narew posiada nawierzchnię żwirową, która każdego roku jest konserwowana i wobec tego nie zachodzi konieczność natychmiastowego wykonania nawierzchni asfaltowej.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Jan Charkiewicz**
**inspektor d/s budownictwa**

**Да заметкі „СЫПЛЮЦЬ СОЛЬ“, „Ніва“ № 52/1139 ад 25 снежня 1977 года.**

**Адказвае: PRZEDSIĘBIORSTWO GOSPODARKI KOMUNALNEJ I MIESZKANIOWEJ W BIELSKU PODLASKIM.**

W odpowiedzi na krytyczną notatkę pt. „Sypią sól”, zamieszczoną w tygodniku „Niwa” z dnia 25 grudnia 1977 roku (nr 52/1139), Przedsiębiorstwo Gospodarki komunalnej i Mieszkaniowej w Bielsku Podlaskim niniejszym wyjaśnia, że przed ukazaniem się notatki prasowej nie zachodziła konieczność zgarniania śniegu z jezdni przy pmocy pługów.

W wypadku ślizgawicy Przedsiębiorstwo posypuje jezdnię mieszaniną specjalnej soli drogowej, chlorku wapnia i piasku, co jest zalecane przez jednostki nadrzędne i stosowane przez inne przedsiębiorstwa.

**Dyrektor**
**Jan Piaszczyński**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**



 

